ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 21 (2600)
ПЯТНІЦА
26
мая 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## ПЕСНЯ, ЯК НАБАТ

Што можа песня! Нашы бацькі і дзяды з песняй на вуснах ішлі на барыкады, будавалі Камсамольск і Днепрагэс, і на вайне яна клікала ў бой і памагала перамагаць.

Баявая песня-заклік і сёння сімвал нашага гераічнага часу. Гэта яскрава раскрылася на рэспубліканскім конкурсе палітычнай песні «Моладзь выкрывае імперыялізм», праведзеным ЦК ЛКСМБ, Міністэрствам культуры БССР і рэспубліканскім Саветам прафсаюзаў.

Конкурс прынёс нямала новых адкрыццяў: адбыліся прэм'еры песень беларускіх кампазітараў, знаёмствы з новымі таленавітымі іх выканаўцамі.

Рэпартаж пра конкурс палітычнай песні чытайце на 13-й старонцы.



Спявае Галіна Калініна (Віцебск).



Надзея Кіvenка, Валянціна Ваўчок, Клаўдзія Дубленых і Данута Дземяшкевіч прыехалі на конкурс з Астраўца.



Надзею Пажывацьна і Міхалая Доўгава прыслаў у Мінск Стаўбцоўскі раённы дом культуры.



Вакальна-інструментальны ансамбль «Песняры» зноў выступіў з вялікім поспехам.

Фота Ул. КРУКА.

# ДЗЕЛЯ МІРУ НА ЗЯМЛІ

**Мір на зямлі! Для нас, савецкіх людзей, якія перажылі вайну, няма нічога больш важнага. Але, разам з тым, мы разумеем, што адстаяць мір — нялёгкая справа, што ёсць яшчэ ў свеце сілы, якія імкнуцца раздзьмуць іскры новай сусветнай вайны. І калі ім не ўдаецца зрабіць сваю чорную справу, дык «вінавата» ў гэтым наша магутная краіна, яе міралюбівая знешняя палітыка.**

**Вось чаму з поўным адабрэннем ўспрынялі мы дакументы майскага Пленума Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, у прыватнасці, пастанову «Аб міжнародным становішчы», прынятую па дакладзе Генеральнага сакратара ЦК КПСС Л. І. Брэжнева.**

**У пастанове канстатуецца, што ленінская знешняя палітыка КПСС, Савецкай дзяржавы карыстаецца аднадушнай падтрымкай усёй партыі, усяго савецкага народа, што прынцыповая, паслядоўная знешняя палітыка СССР адпавядае карэнным інтарэсам Савецкага Саюза, сусветнага сацыялізма, нацыянальна-вызваленчага руху.**

**Мне неаднаразова давялося бываць за рубяжом. Надоўга запомніцца, у прыватнасці, паездка ў Індыю, у штат Майсур, два гады таму, дзе мы сустракаліся з дзяржаўнымі дзеячамі, работнікамі літаратуры і мастацтва, рабочымі. Пераважная большасць з іх гаварыла пра нашу краіну, пра яе знешнюю палітыку з вялікай павагай і адабрэннем.**

**Хто іншы, як не Савецкі Саюз выступае ініцыятарам разрадкі напружання ў Еўропе, вынікам чаго з'явілася заключэнне дагавору з Федэратыўнай Рэспублікай Германіі! Хто, як не наша краіна, выступае за мірнае ўрэгуляванне блізкаўсходняга канфлікту, за справядлівы мір на Індакітайскім паўвостраве!**

**З кожным годам расце міжнародны аўтарытэт Савецкага Саюза. Да слова Масквы сёння прыслухоўваецца ўся планета. І мы, работнікі мастацтва, разам з усімі савецкімі людзьмі ганарымся гэтым.**

**М. ЯРОМЕНКА,**
**народны артыст БССР.**




# ЦЁПЛЫЯ СУСТРЭЧЫ СЯБРОЎ

...Усе гэтыя дні па-вясноваму ярка свеціць сонца, у квецені стаяць сады і паркі. І, здаецца, гэта дзеліцца з намі цеплынёй сваёй шчодрая на сонечныя праменні братняя балгарская зямля, адкуль на Дні балгарскай літаратуры да нас прыехалі яе пасланцы.

Іх сустракалі ў Мінскім аэрапорце — дэлегацыю Усенароднага камітэта балгара-савецкай дружбы на чале з вядомым балгарскім пісьменнікам, заслужаным дзеячам культуры НРБ, лаўрэатам Дзімітроўскай прэміі Дзімітрам Ангелавым. У складзе дэлегацыі прыбылі вядомыя нам паэты, прапагандысты і перакладчыкі беларускай літаратуры — рэдактар выдавецтва «Народна младзеж» Андрэй Германаў, галоўны рэдактар выдавецтва «Балгарскі пісьменнік» Іван Давыдкаў, рэдактар часопіса «Септэмвры» Найдан Вылчаў і першы сакратар пасольства НРБ у СССР Іван Грыгораў.

Дарагіх сяброў прыйшлі сустрэць першы намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі І. Шамякін, намеснікі старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў рэспублікі І. Мележ, А. Грачанікаў, старшыня прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі Г. Чарнушчанка, намеснік старшыні праўлення Беларускага аддзялення Таварыства савецка-балгарскай дружбы М. Калачынскі, пісьменнікі, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый.

22 мая адкрыліся Дні балгарскай літаратуры на Беларусі. У Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі адбылася сустрэча мінчан з дэлегацыяй братняй краіны. Пасланцы Балгарыі пазнаёміліся з дасягненнямі эканомікі і культуры Беларусі, са шматграннай дзейнасцю Беларускага аддзялення Таварыства савецка-балгарскай дружбы. Яны яшчэ раз пераканаліся, што працоўныя Беларусі праяўляюць велізарную цікавасць да гераічнай гісторыі балгарскага народа, да яго поспехаў у будаўніцтве сацыялізма.

Потым адбылася прэс-канферэнцыя. З прывітальным словам выступіў Іван Шамякін. Ён нагадаў традыцыі братніх узаемаадносін паміж нашымі народамі, расказаў пра трывалую моцную дружбу нашых культур і літаратур.

З вялікай цікавасцю ўдзельнікі прэс-канферэнцыі выслухалі выступленні Дзімітра Ангелава і іншых балгарскіх гасцей. Найдан Вылчаў, у прыватнасці, заявіў:

— Свята балгарскай літаратуры ў Беларусі адкрываецца напярэдадні Дня славянскай пісьменнасці, дня вялікіх братоў Кірылы і Мефодзія, якія далі славянам азбуку, тыя літары, якімі можна напісаць словы «мір» і «свабода». Літары гэтыя, словы гэтыя прывялі нашы думкі і пачуцці далёка за Дунай, на Беларусь.

Гэтае свята яшчэ больш радаснае таму, што яно праходзіць у дні, калі адзначаецца 90-годдзе тытана чалавечай думкі, выдатнага дзеяча балгарскага і міжнароднага камуністычнага руху, вялікага сына Балгарыі Г. Дзімітрова.

Беларуска - балгарскія сувязі ў галіне культуры пачаліся зусім нядаўна. Але яны сведчаць пра цеснае збліжэнне паміж балгарскім і беларускім народамі, пра іх вялікую і даўнюю любоў.

Балгарыю і Беларусь звязвае не толькі літаратура. Нас звязвае і кроў Лiлii Карастаянавай, пралітая на беларускай зямлі, і ратны подзвіг рускіх і савецкіх салдат, якія двойчы прынеслі свабоду балгарскаму народу. Я ніколі не забуду, як Янка Брыль падоўгу прастойваў перад помнікамі паўшым салдатам і, чытаючы прозвішчы, гаварыў: «Беларус, беларус, беларус...» Я ніколі не забуду і пра тое, што ў маёй краіне імя Каліноўскага гучыць гэтак жа, як і імя нашага героя Васіля Леўскага. Я надзвычай рады таму, што на Беларусі мы сустрэлі сардэчны, сяброўскі прыём, які наўрад ці зможам калі-небудзь забыць...

У першы дзень свята адкрылася ў Мінску вялікая фотавыстаўка, прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння Г. Дзімітрова. Аб гераічным жыцці Георгія Дзімітрова, непадзельна аддадзеным працоўнаму народу, перамозе справы камунізма, расказаў першы сакратар пасольства НРБ у СССР І. Грыгораў.

23 мая ў зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны святу балгарскай культуры і славянскай пісьменнасці, Дням балгарскай літаратуры ў БССР.

Урачысты вечар адкрыў старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, акадэмік АН БССР, народны паэт рэспублікі Максім Танк.

— Працоўныя Беларусі, — сказаў ён, — праяўляюць сардэчныя пачуцці брацкай дружбы да балгарскага народа. У жыцці кожнага народа ёсць здзяйсненні, якія яркім святлом азараюць гісторыю чалавецтва. Такой падзеяй з'явілася стварэнне славянскай азбукі выдатнымі балгарскімі асветнікамі і мысліцелямі Кірылам і Мяфодзіем. Гэта мела велізарнае значэнне для развіцця асветы і культуры, нацыянальна - вызваленчай барацьбы і ўмацавання дружбы і супрацоўніцтва славянскіх народаў.

Пісьменнікі Беларусі разам са сваімі балгарскімі калегамі будуць і далей удасканальваць сваё майстэрства, умацоўваць і расшыраць сяброўскія сувязі паміж савецкім і балгарскім народамі, паміж беларускай і балгарскай літаратурамі.

На вечары з паведамленнем пра сувязі братніх культур Беларусі і Балгарыі выступілі Н. Гілевіч і М. Калачынскі.

Першы сакратар пасольства НРБ у СССР Іван Грыгораў расказаў пра дасягненні народнай гаспадаркі і культуры Балгарыі за гады сацыялістычнага будаўніцтва.

З увагай было выслухана выступленне Найдана Вылчава. Кіраўнік дэлегацыі Д. Ангелаў паднёс у дар Беларускаму таварыству дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі партрэт Георгія Дзімітрова.

24 мая балгарскія і беларускія пісьменнікі сабраліся разам, каб пагаварыць пра свае справы.

Іван Шамякін паведаміў пра планы нашых выдавецтваў — зараз рыхтуецца да выдання першая кніга прозы Івана Давыдкава і зборнік вершаў балгарскіх паэтаў пасляваеннага пакалення.

На сустрэчы майстроў слова выступілі Н. Вылчаў, І. Давыдкаў, Д. Ангелаў, М. Калачынскі, А. Куляшоў, М. Танк, І. Мележ, Л. Салавей, Н. Гілевіч, Л. Прокша, В. Ніфаровіч.

Былі выказаны прапановы аб актывізацыі абмену дэлегацыямі пісьменнікаў і перакладчыкаў, аб агульным выданні зборніка твораў балгарскіх аўтараў пра Беларусь і беларускіх — пра Балгарыю.

Пасля сустрэчы ў Саюзе пісьменнікаў БССР і балгарскія, і беларускія літаратары накіраваліся на ВДНГ БССР, дзе ўрачыста адкрылася выстаўка балгарскай кнігі.

Выстаўку адкрыў старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па друку Р. Канавалаў. Ад імя гасцей выступіў Д. Ангелаў.

Усе гэтыя дні ў кнігарні «Дружба» адкрыта выстаўка-продаж балгарскай літаратуры. Яна карыстаецца вялікай цікавасцю пакупнікоў.

...Сёння свята балгарскай літаратуры прыйшло на землі Магілёўшчыны, Гомельшчыны і Брэстчыны. Шэсце братняй культуры працягваецца.

Георгій ДЖАГАРАЎ

## АДКАЗ

**Знікаюць недавер'е і сумненні,**
**Усё цяплей навокал і святлей.**
**Я веру ў свет і чыстае сумленне,**
**Я веру ў сонца, дружбу і людзей.**

**Я веру ў нашы зорныя штандары,**
**У родны край, пяшчоту мудрых гор.**
**У шлях далёкі, што ідзе праз хмары,**
**У гаману пра лёс і траў, і зор.**

**А той, хто, як астрожнік— ва ўспамінах,**
**Марнуе дні нікчэмнай балбатнёй,**
**Таўчэ мякіну думак вераб'іных, —**
**Упоравень не стане ён са мной.**

**Я ў свет іду скалістымі шляхамі,**
**П'ю пералескаў ранішнюю сінь.**
**Не, не шукайце праўду пад нагамі,**
**Яна сярод аблокаў і вяршынь.**

**Я спатыкаўся, камянеў у зморы,**
**Ды вабілі і зблізку, і здаля**
**Загадкавасцю людзі, птушкі, горы,**
**Чароўныя і неба, і зямля.**

**На свеце гора і цяпер багата,**
**Ды варта жыць і ведаць між нягод,**
**Што пасля будняў зноўку прыйдзе свята,**
**І што зіма бывае раз у год.**

**Каб узнімаць здзічэлую аблогу,**
**Я веру ў свет, хоць зло паўзе наўзбоч.**
**Няхай жыццё святкуе перамогу,**
**І ў прадчуванні дня ўцякае ноч.**

**Знікаюць недавер'е і сумненні,**
**Усё цяплей навокал і святлей.**
**Я веру ў свет і чыстае сумленне,**
**Я веру ў сонца, дружбу і людзей.**

Пераклаў
Анатоль ГРАЧАНІКАЎ.

ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КП Беларусі разгледзеў пытанне аб сур'ёзных недахопах у праектаванні і забудове другога дыяметра горада Мінска. У прынятай пастанове адзначаецца, што Мінскі гарком КПБ, гарвыканком, Дзяржбуд БССР нездавальняюча займаюцца пытаннямі праектавання і забудовы другога гарадскога дыяметра сталіцы рэспублікі, прадугледжанага генеральным планам развіцця горада Мінска, зацверджаным ЦК КПБ і Саветам Міністраў БССР.

За апошнія 10—12 гадоў у забудове і добраўпарадкаванні другога гарадскога дыяметра, які ўключае ў сябе Паркавую магістраль і праспект Партызанскі, дапушчаны сур'ёзныя памылкі і пралікі. Будаўніцтва такіх аб'ектаў на Паркавай магістралі, як Дом мадэлей, інтэрнат і жылы дом Беларускага дзяржаўнага універсітэта, спартыўны павільён «Працоўныя рэзервы», завод электрахаладзільнікаў, а таксама на праспекце Партызанскім 4—5-павярховыя жылыя дамы рознахарактарнай архітэктуры, адміністрацыйна-бытавы корпус рысорнага завода, тыпавыя нізкай якасці 9-павярховыя жылыя дамы і іншыя збудаванні, прывяло да разрозненай малавыразнай забудовы, якая не адпавядае ролі і значэнню галоўнага гарадскога дыяметра. Архітэктурна-мастацкі ўзровень, якасць аддзелачных матэрыялаў і будаўнічых работ многіх будынкаў не адпавядаюць сучасным горадабудаўнічым патрабаванням.

Амаль на ўсёй працягласці праспекта Партызанскага адсутнічаюць добраўпарадкаванне і азеляненне, сучаснае вулічнае асвятленне і малыя архітэктурныя формы. Да гэтага часу не вырашана пытанне ажыццяўлення прамой сувязі праспекта Партызанскага з цэнтрам горада, што ўскладняе яго рэканструкцыю. Значна адстае добраўпарадкаванне і ў раёне Паркавай магістралі. Няўдала вырашаны яе трасіроўка і папярочны профіль, што прывяло да стварэння завужаных тратуараў, нязручнага для пешаходаў бульвара па восі вуліцы.

Асноўнай прычынай дапушчаных сур'ёзных пралікаў і памылак у забудове другога гарадскога дыяметра з'яўляецца грубае парушэнне патрабавання асноўных палажэнняў генеральнага плана г. Мінска аб комплекснай рэканструкцыі Цэнтральнага раёна, асноўных магістралей і плошчаў горада на аснове зацверджаных праектаў планіроўкі і забудовы. У выніку безадказных адносін Дзяржбуда БССР, Мінскага гаркома і гарвыканкома да фарміравання другой галоўнай магістралі горада не была ажыццёўлена канцэнтрацыя намаганняў і сродкаў для стварэння тут закончаных высокамастацкіх ансамбляў. Да гэтага часу не атрымалі архітэктурнага завяршэння такія найбольш адказныя горадабудаўнічыя вузлы, як аўтазаводская плошча, уезды ў горад, участак Паркавай магістралі ад пуцеправода да гасцініцы «Юбілейная» і іншыя.

Будаўніцтва шэрагу важных аб'ектаў у гэтым раёне вядзецца да гэтага часу без зацверджанага праекта планіроўкі і забудовы ўсяго комплексу другога гарадскога дыяметра, распрацоўка якога недапушчальна зацягнулася. Вынікам гэтага з'явілася выбарачнае размяшчэнне асобных аб'ектаў, архітэктурна-мастацкае вырашэнне якіх не адпавядае сучасным патрабаванням горадабудаўніцтва. Напрыклад, у 1964 годзе Дзяржбуд БССР санкцыяніраваў размяшчэнне на галоўным гарадскім дыяметры будынка Інстытута ўдасканалення настаўнікаў на аснове прывязкі тыпавога праекта трохпавярховага вучэбнага корпуса індустрыяльнага тэхнікума.

Мінскі гарвыканком і Дзяржбуд БССР не праяўляюць належнай настойлівасці і прынцыповасці ў вырашэнні падведамаснымі арганізацыямі і

# ЧЫТАЮЧЫ ПАСТАНОВУ...

Наша партыя і ўрад праяўляюць клопат аб павышэнні якасці будаўніцтва і развіцці архітэктуры. Партыя заўсёды пільна сочыць за нашай работай і накіроўвае яе.

Яркае сведчанне таму — прынятая ЦК КП Беларусі пастанова аб сур'ёзных недахопах у праектаванні і забудове 2-га дыяметра г. Мінска.

У пастанове канкрэтна аналізуюцца прычыны дапушчаных сур'ёзных пралікаў і памылак у забудове і разам з тым ставяцца канкрэтныя задачы па выпраўленні дапушчаных памылак.

Праблема комплекснай забудовы — адна з найбольш актуальных, і недахопы нашай горадабудаўнічай практыкі з'яўляюцца перш за ўсё вынікам някомплекснага вырашэння горадабудаўнічых задач.

Неабходна вырашаць не толькі сённяшнія, але і перспектыўныя праблемы развіцця горада, ясна ўяўляць сабе архітэктурную і планіровачную характарыстыку нашай сталіцы ў бліжэйшай будучыні і ў пачатку XXI стагоддзя.

Такія задачы не могуць быць вырашаны без сур'ёзных навуковых, эканамічных і сацыялагічных даследаванняў, бо пралікі ў прагнозах развіцця, як паказала практыка папярэдняй работы над 2-м дыяметрам, наносяць горадабудаўніцтву вялікія страты. Неабходна падтрымліваць дух непрымірымасці да ўсяго шэрага, безаблічнага, непрафесійнага, што яшчэ часта сустракаецца ў нашай архітэктурнай практыцы.

У нас яшчэ вельмі слабая горадабудаўнічая дысцыпліна, часта парушаюцца генеральныя планы, каб дагадзіць недальнабачным патрабаванням сённяшняга дня. Наглядны прыклад някомплекснай рэалізацыі праектаў забудовы — нашы новыя жылыя раёны, дзе няма ніводнага

## Пятрусь МАКАЛЬ



Мы прагнем хуткае язды.
Забыўшыся на небяспеку,
Ляцім шалёна хто куды...
Ах, спешка веку,
Спешка веку!
У тлуме еду, як і ўсе,
Між спадарожнікаў вясёлых.
Мяне калыша і нясе
Аўтобус—інтэрнат на колах.
Тут упрытык сусед з суседам,
Пінжак з сукенкай упрытык.
За выбухамі смеху следам—
Сварлівасці грачыны крык.
Тут упрытык з галінкай бэзу—
Тугі румянец калача,
І побач з нематой пратэзу—
Цяпло юнацкага пляча.
Тут побач з боцікам
бліскучым
Цяжкі салдацкі чаравік.
Тут учарашняе з сучасным,
Тут боль з уцехаю ўпрытык.
Асфальт ільсніцца, як вада,
І не канчаецца гайданка.
Адна язда,
Адна бяда
Усіх трасе, як ліхаманка.
Ад нечаканага рыўка
Дарога ўздыбіцца прамая.
Хай будзе пільнаю рука
Таго, хто дрогкі руль трымае.
Адданыя трывожным трасам,
Стаім цярпліва ці сядзім.
Сто чалавечых лёсаў разам—
Як лёс адзін,
Як лёс адзін.

## БАЛАДА ПРА ЛЯСНОЕ РЭХА

Не разлучаўся цар Вядзьмар
З драўлянаю аховай.
Любіў ён скаланаць гушчар
Прамовай выбуховай.

Ляцелі словы, як з трубы,
Гулі, як рой асіны.
Каменна слухалі дубы,
І трэсліся асіны.

Каціўся громам грозны бас.
І—
прыкрая пацеха—
Яго нязменна кожны раз
Перакрыўляла рэха.
Ці не двайнік дражніў цара?
І гэта падабенства
Угневанага Ведзьмара
Прыводзіла ў шаленства.

І раптам ён патрос наўзгад
Сваёй чупрыны стрэху,
Лесавікам аддаў загад:
— Схапіць умомант рэха!

Звязаць крамольнае і рот
Заткнуць яму навекі,
Каб не дрыжаў лясны народ
Ад звонкай небяспекі!..

І ад зары і да зары
Вядзьмарскія служакі
Па непралазным гушчары
Снавалі, як вужакі.

І вось ужо лесавікі
Дакладваюць старанна,

# Ц. ЛІЯКУМОВІЧ

# МОВАЮ БРАТЭРСТВА

*УДАСКАНАЛЬВАЦЬ ПЕРАКЛАДЫ ПАЭЗІІ ЯНКІ КУПАЛЫ НА РУСКУЮ МОВУ*

ЗНАЧЭННЕ Янкі Купалы не абмяжоўваецца нацыянальнымі рамкамі. У яго творах гучаць агульначалавечыя ідэі, блізкія і зразумелыя людзям працы. Не выпадкова яго творчасць літаральна з першых крокаў выклікала да сябе цікавасць прадстаўнікоў іншых народаў, атрымала высокую ацэнку вядомых дзеячоў культуры. Першым народны характар паэзіі Купалы, глыбіню яго мастацкага мыслення заўважыў М. Горкі. З уласцівай яму шчодрасцю і добразычлівасцю ён звярнуў увагу на неабходнасць знаёмства рускага чытача з паэзіяй Купалы. Ён жа першы, пераклаўшы «А хто там ідзе?», адчыніў купалаўскай паэзіі дзверы ў рускую літаратуру.

Творы Я. Купалы выклікаюць асаблівыя цяжкасці пры перакладзе на рускую мову, бо яны «распеўныя, пабудаваны на гнуткіх і выразных інтанацыях той мовы, на якой і зараз гаворыць народ. Менш за ўсё ў іх кніжнай надуманасці і мудрагелістых стылістычных канструкцый. Мова паэта простая і ясная, часта сціслая да афарыстычнасці, часам шырокая і прасторная, як свабодная плынь ракі» (Ус. Раждзественскі). Творы Купалы нялёгкія для перакладу, бо яны вылучаюцца высокім напалам пачуццяў, багаццем думак, якія паэт умеў аформіць па-народнаму мудра і проста, з выключнай натуральнасцю і дасканаласцю, што ўласціва яго рэдкаснаму таленту.

Услед за М. Горкім, уражаны паэзіяй Я. Купалы, звяртаецца да перакладаў з яе і В. Брусаў. Яго пераклады вершаў «Адцвітанне», «У начным царстве», «На купаллe», «Песня» («Як у лесе зацвіталі...») зроблены беражліва, з захаваннем вартасцей арыгіналаў.

Найбольш актыўна ў дарэвалюцыйныя гады перакладамі з Купалы займаўся А. Карынфскі. У шэрагу перакладаў («Над магіламі», «Песня сонцу», «Явар і каліна» і некаторых іншых) ён дасягнуў пэўных поспехаў. Я. Купала пісаў свайму перакладчыку: «Чытаў я і перачытваў па некалькі разоў вашы пераклады. Надзвычайна дакладныя і цудоўныя!» Аднак нельга не заўважыць, што ў многіх перакладах А. Карынфскі не падняўся да ўзроўню арыгінала, у асобных з іх адчуваецца дэкадэнцкі налёт.

Упершыню рускі чытач атрымаў найбольш поўнае ўяўленне аб творчасці Я. Купалы ў 1919 годзе, калі, дзякуючы перакладчыцкай і рэдактарскай рабоце І. Белавусава, выйшаў купалаўскі зборнік на рускай мове. У яго ўвайшлі пераклады В. Брусава, Я. Нячаева, І. Белавусава, А. Карынфскага, А. Чумачэнкі і інш. Праўда, многія пераклады зборніка яўна недасканалыя. Тлумачыцца гэта і адсутнасцю сур'ёзных патрабаванняў да перакладчыцкай работы, і ўзроўнем перакладчыцкай справы ў той час, і тым, што шэраг перакладчыкаў не мелі значнага паэтычнага таленту.

Справа з перакладамі Купалы на рускую мову рашуча зрушваецца з месца ў 30-я гады. Да яго творчасці пачалі звяртацца вядомыя савецкія паэты. Яны працуюць актыўна, з вялікім натхненнем. З сярэдзіны 30-х гадоў да апошніх дзён жыцця Купалы штогод выходзяць яго новыя зборнікі на рускай мове.

Сапраўдным святам для музы народнага песняра Беларусі стала яго сустрэча з Міхаілам Ісакоўскім. К таму часу многія творы Купалы былі перакладзены ўжо на рускую мову, яго талент быў высока ацэнены выдатнымі майстрамі слова (А. Луначарскі, У. Маякоўскі, Д. Бедны і інш.), але перакладаў было зроблена яшчэ недастаткова, многія з іх былі выкананы на нізкім узроўні.

М. Ісакоўскі нямала зрабіў для таго, каб зняць з «рускага» Купалы няўклюдныя, ускладнёныя формы, прымітыўнасць выразаў, саладжавасць, спрошчанасць, што адчуваліся ў многіх перакладах. Ён адмовіўся да механічнага перанясення ў пераклад радкоў арыгінала, не спрабаваў захаваць знешнюю дакладнасць, пагоня за якой робіць вершы «якімісьці малакроўнымі, няўклюднымі, халоднымі». Каб раскрыць паэтычную сілу арыгінала, паўнату яго гучання, М. Ісакоўскі імкнуўся перадаць унутраную сутнасць твора. Хоць пры гэтым і даводзілася замяняць асобныя выразы і цэлыя радкі, перакладчык рабіў гэта з такой асцярожнасцю і чуйнасцю, што ў выніку дабіваўся максімальнай блізкасці да мастацкай структуры арыгінала. М. Ісакоўскі дасягнуў сэнсавай і стылявой дакладнасці пры перакладзе твораў беларускага паэта. Купалаўскаму вершу ў перакладах Ісакоўскага дыхаецца лёгка, крок яго нязмушаны, раскаваны.

Над перакладамі з паэзіі Я. Купалы з любоўю, з вялікай патрабавальнасцю ў розныя гады працавалі Э. Багрыцкі, А. Пракоф'еў, А. Твардоўскі, М. Святлоў, А. Суркоў, С. Гарадзецкі, Ус. Раждзественскі, М. Браўн, М. Камісарава, В. Шэфнер, П. Кабзарэўскі, С. Абрадовіч, М. Сідарэнка, М. Галодны, І. Садоф'еў, П. Сямынін, Б. Кежун, Б. Ірышін, Л. Хаустаў і многія іншыя вядомыя рускія паэты і перакладчыкі. Яны дапамаглі Я. Купалу стаць «сваім паэтам» на ўвесь Савецкі Саюз, а яго паэзію зрабіць неад'емнай часткай нашай шматнацыянальнай літаратуры.

Аднак, не закрэсліваючы значнасці і важнасці работы па азнаямленні ўсесаюзнага чытага з творчасцю Я. Купалы, варта ўсё ж прызнаць, што зроблена ў гэтым кірунку пакуль што не ўсё. Лірыка беларускага паэта яшчэ не ва ўсіх выпадках загучала на рускай мове на поўны голас, з тым жа размахам, з той жа шырынёй і веліччу, як і на роднай мове. Шэраг перакладаў нагадвае мёртвы зляпак з арыгінала, у многіх з іх канкрэтныя купалаўскія вобразы заменены расплывістымі, не ўсім перакладчыкам удалося перадаць гутарковыя інтанацыі купалаўскага верша, яго сувязі з фальклорам, напеўнасць радкоў. Не адпавядаюць узроўню арыгіналаў і дасягненням сучаснага перакладчыцкага майстэрства многія з купалаўскіх твораў савецкага часу («Спадчына», «Я — калгасніца», «На нашым полі», «Маладым паэтам», «Як я молада была...», «Лён», «Наша моладзь», «Алеся» і шэраг іншых).

На жаль, нават у прызнаных майстроў-перакладчыкаў купалаўскай творчасці надараюцца пераклады, якія не могуць задаволіць сённяшняга чытача. Напрыклад, хоць у перакладзе верша «Лён» А. Пракоф'еў у многім пазбег тых пагрэшнасцей, якія былі ў перакладзе М. Галоднага, але і ён не да канца перадаў фарбы Я. Купалы. Увогуле і А. Пракоф'еў, і М. Галодны перадалі дух арыгінала, тую атмасферу адухоўленасці і шчырасці, у якой пададзены ўзаемаадносіны герояў твора. Аднак першая ўжо страфа аказался неадольнай для абодвух перакладчыкаў.

У арыгінале:

Як на поле, на зямлю
Прыйшла раніца вясны,
Я пасеяла ў раллю
Жмені зёран ільняных.

У перакладзе М. Галоднага:

Только ринулся в поля
**Ранний** звон, весенний звон,
**Раным-рано** вышла я,
Золотистый сеять лен.

У А. Пракоф'ева:

Как над полем, над землей
Встала красная **весна**,
Я посеяла **весной**
В нашем поле **горстку** льна.

Па-першае, у М. Галоднага поруч стаяць блізкія словы **ранний** і **раным-рано**, што парушае структуру страфы. У А. Пракоф'ева ў блізкім суседстве аказаліся словы **весна** і **весной**, і атрымалася тое ж, што і ў М. Галоднага. Па-другое, ніводнаму з перакладчыкаў не ўдалося перадаць з усёй «асалодай» наступны купалаўскі вобраз: «Прыйшла раніца вясны».

У перакладзе М. Галоднага ёсць шэраг няўдалых выразаў. Абстрактны **ранний звон**. Радок «Я полола с ранних рос» чытаць услых ніякавата. Няўдалай скорагаворкай гучаць радкі: «Мяла мялкою я лен, вдоль трепалом шла по нем». Незразумела, што меў на ўвазе М. Галодны, пакінуўшы ў перакладзе такое: **«За снопами снились сны,** песни пелись о весне». У арыгінале гэта гучыць зусім іначай: «Рваць ішла яго ў снапы, пела песні аб вясне». Альбо возьмем такую мясціну: «Падышоў бліжэй Міхась, мне паклаў на стан руку». У перакладзе гэтыя радкі набылі адценне прымітыўнай пашлаватасці: «Подошел ко мне Михась, подмигнул **забавно** так». У іншым месцы М. Галодны піша: «Луч весенний пробежал, от забора по стене», хоць крышачку вышэй паведамлялася, што дзеянне адбываецца восенню: «Хоть и осень, а светло, радость льется через край». У Купалы ж сказана вось што: «Промень ясны загуляў». Трэба ўяўляць сабе, якой сілай ўздзеяння валодае купалаўскі верш, калі нават пасля такіх скажэнняў ім захапляўся М. Горкі.

Узровень перакладу А. Пракоф'ева таксама неаднолькавы. Напрыклад, у яго сустракаюцца такія радкі: «А валек мой — хлясь да хлясь — глиняный колотит пол» (?!) альбо: «Как шла лен я обивать, в ноги камень да песок» (?!).

Нярэдка пераклады не толькі не падымаюцца на сіле выразнасці да арыгінала, але літаральна скажаюць яго. Дастаткова нагадаць хоць бы пераклад верша «Я — калгасніца» — самы слабы пераклад М. Ісакоўскага. У ім шмат выпадковых слоў, расплывістых, неафармленых думак, прыблізных выразаў.

Утром Настеньку
Приласкаю,
В ясли Настеньку
Отпускаю (?).

И Данилочка
Мой в порядке (?!),
Игры водит он
На площадке.

А как выйду я,
Их мамаша (?!),
На колхозное
Поле наше...

У арыгінале:

Сваю Настачку—
Дзіцё тое—
Нясу ў яслі я
Раніцою.

А Данілачка
Важным хлопцам
Рады бегае
На пляцоўцы.

А як выйду я—
Іхня маці—
Ды калгаснае
Жыта жаці...

Характэрна, што прыблізнае афармленне думак прывяло да змянення рытмічнага малюнка верша. Рытм у перакладзе атрымаўся заліхвацкі, лёгкаважкі, а ў арыгінале ён адпавядае выказванню той радасці, якой жыве маладая калгасніца. Выклікае жаль, што пераклад ў такім выглядзе друкуецца дагэтуль.

Сярод пагрэшнасцей, якія больш за ўсё аслаблялі сілу і выразнасць купалаўскага верша, самыя распаўсюджаныя дзве: няўменне перадаць нацыянальныя асаблівасці нашага паэта і прыгладжанасць перакладаў, іх нівеліроўка, падгонка пад перакладчыцкі стандарт. Часцей за ўсё менавіта гэта прыводзіць да парушэння купалаўскага стылю і пазбаўляе яго вершы індывідуальнай паэтычнай афарбоўкі.

Асабліва прыкметны скажэнні там, дзе перакладчыкам не ўдавалася падшукаць на рускай мове адэкватных выразаў, каб перадаць устойлівыя беларускія словазлучэнні, якія нярэдка страчаюцца ў вершах Я. Купалы. Напрыклад, радкам верша «За праўду»: «Дык жыва ж к пачатку — не час спаць у шапку, валяцца, як чэрві, ў траве» Л. Друскін не здолеў знайсці эквівалента. «Так смело за нами — отчизны сынами — вставайте же, время не ждет», — у гэтых радках перакладу не толькі не адчувацца нацыянальнай афарбоўкі арыгінала, але страчана і іх вобразнасць.

Здаралася, што няўменне захаваць нацыянальны каларыт арыгінала прыводзіла да скажэння сэнсу. «Других мы заставим (?) и нас как людей уважать» — такая фраза ёсць у тым жа вершы «За праўду», перакладзеным Друскіным. У Купалы ж сказана зусім іншае: «Пры згодзе і ладзе ў нас до-

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

Лявон КУДЛА

# ДАРАГІ ПАЦАЛУНАК

— Так... — касірка зірнула на паднос і адкінула на лічыльніках некалькі костачак.— боршч, адбіўная, кампот, хлеб... Шэсцьдзесят капеек.

І тады дзяўчына, якая трымала паднос са стравамі, спахапілася:

— Ой, я ж забыла сумачку ў гасцініцы. Што рабіць?

— Ну, я не ведаю, —незадаволена зірнуўшы на дзяўчыну, адказала касірка:—Не выліваць жа боршч у кацёл...

— Я заплачу за вас, — адазваўся малады чалавек, які стаяў за дзяўчынай у чарзе да касы.

— Не-не, ні ў якім разе, — запярэчыла дзяўчына.

— Ды вернеце вы яму гэтыя шэсцьдзесят капеек! Паабедаеце і ў добрым настроі прагуляецеся да гасцініцы, —сказала касірка.

— Ну, хіба так,— неахвотна пагадзілася дзяўчына.

За сталом маладыя людзі пазнаёміліся. Юля ніяк не магла сабе дараваць: такі недарэчны выпадак. Юрка слухаў яе, спагадліва ківаў галавой, а сам думаў: «Прыкідваецца, дзяўчынка. Пазнаёміцца захацела».

Яны выйшлі з кафэ.

— У мяне машына, —сказаў Юрка, вынімаючы з кішэні ключ ад «масквіча». Ён спадзяваўся здзівіць дзяўчыну.

— А тут жа недалёка,—запярэчыла яна.

— Не кідаць жа мне машыну, —усміхнуўся Юрка.

— Ну, гэта так.—пагадзілася дзяўчына.

Селі ў машыну.

«От артыстка», — падумаў Юрка,—робіць выгляд, што яе не цікавіць мой «масквіч», а ў душы дзесьці аж пішчыць ад шчасця».

— Праз мяне вы губляеце час,—сказала заклапочана дзяўчына, —відаць, вас чакае нейкі начальнік.

— Я сам сабе начальнік, — усміхнуўся Юрка.—Куды хачу, туды і еду. Машына мая ўласная.

— А-а,—зірнула са шчырым здзіўленнем Юля на хлопца і падумала: «Такі малады, а ўжо мае сваю машыну».

«Масквіча» Юрка прыдбаў не сам. Бацька купіў. Паспрабаваў бы не купіць! Жоначка вырвала б апошнія валасы на яго галаве...

— Мае продкі жывуць вунь у гэтым доме, — кіўнуўшы галавой, сказаў Юрка. —Калі захочацца мне напісаць — Магілёўская, 15, кватэра 15. Вельмі лёгка запамінаецца.

— Куды вы?—спытала Юля.

— Там перакапана вуліца. Трэба аб'ехаць, —схлусіў Юрка.

Юля кіўнула ў знак згоды. Адкуль ёй было ведаць, дзе што перакапана ў горадзе, у які яна зрэдку прыязджае ў камандзіроўку. Юрка ж успрыняў гэта, як добры пачатак у ажыццяўленні яго задумы.

— А ты мне падабаешся...

І ён не хлусіў. Юля сапраўды была прыгожая дзяўчына.

— Так адразу?

— Ёсць жа каханне з першага позірку...

— І ёсць яшчэ сціпласць і вытрымка,— адказала Юля.

— Перажытак. Мой стары асмеліўся пацалаваць маю маці толькі на трэці год заляцання. Здзіўляючая вытрымка! А навошта...— Гаворачы гэта, Юрка абхапіў дзяўчыну рукой і прыхіліў да сябе. Юля адштурхнула хлопца. Пачалася валтузня. І раптам... Карацей, кончылася ўсё тым, чым павінна было скончыцца ў такім выпадку: «масквіч» з усяго пэнду ўрэзаўся ў слуп. Зазвінела разбітае шкло...

Пакуль Юрка і Юля вылазілі з машыны, да месца катастрофы збегліся людзі. Як з-пад зямлі, вырас міліцыянер...

...Увечары Юля пазваніла ў кватэру нумар 15 па Магілёўскай вуліцы. Дзверы адчыніў стомлены пажылы чалавек.

— Вам каго?

— Юру. Ён ваш сын?

— Так...

— Калі ласка, перадайце яму 60 капеек...

— Вы і ёсць тая прыгажуня, якую ён хацеў пацалаваць?

— Прабачце, я не маю часу. Вось грошы...

Чалавек сумна паглядзеў на тры манеты па 20 капеек.

— А мне гэты пацалунак, мілая дзяўчынка, будзе каштаваць семсот рублёў...

С. МХАРГРДЗЕЛІ.

# ПАХАВАННЕ

Манасэ рыхтаваўся да абароны дысертацыі. Купіў вялікі партфель. Не шкадаваў хлеба-солі, частуючы каго трэба. Вось толькі прафесара Луарсаба Зурабавіча ўсё не ўдавалася пачаставаць. А якраз у руках прафесара быў канчатковы лёс дысертацыі Манасэ. І, хаця прафесар добра ведаў бацьку Манасэ, ніяк нельга было зацягнуць яго ў госці — у прафесара ўсё не выдавалася часу.

Аднойчы, у разгар месячніка бяспекі вулічнага руху, бацьку Манасэ пераехала машына.

— Дзякуй богу! — чамусьці ўсклікнуў Манасэ.

— Чаму ты радуешся? У цябе бацька памёр, няшчасны! — здзівілася жонка.

— Я сёе-тое прыдумаў!

Не марнуючы часу, Манасэ раздабыў фатаграфію Луарсаба Зурабавіча і аддаў яе павялічыць. На другі дзень ён прынёс дамоў партрэт і павесіў на самым ганаровым месцы.

— Ты што, здурнеў? — спытала ўражаная жонка.

— Прафесар вельмі любіў бацьку. Ён абавязкова прыйдзе на паніхіду альбо на пахаванне. Тут ён убачыць у маім доме свой партрэт і...

— Што і...

— Падумае, што я пакланяюся яму, калі яго партрэт вісіць у мяне, як абраз. І ўжо тады не будзе апанента лепей за яго!

— Вусы ў яго, як у твайго бацькі,—сумна заўважыла жонка.

На паніхіду прафесар не прыйшоў. Павінна ўжо было пачацца пахаванне, а яго як не было, так і не было.

Час не чакаў, і нябожчыка пачалі выносіць з дома. У мітусні Манасэ не заўважыў, як нехта зняў са сцяны партрэт «нябожчыка».

Калі прафесар паявіўся, ён ледзь не страціў прытомнасці, убачыўшы свой партрэт, прымацаваны да машыны. Прафесар, хоць і быў рассеяны, усё ж памятаў, што яшчэ жывы. Цяжка дыхаючы, ён падышоў да збялелага Манасэ.

— Прыношу табе спачуванні з выпадку маёй смерці. Бачу, як ты мяне паважаеш. Гатоў жывым пахаваць.

І, разгневаны, пайшоў з пахавання.

У вушах Манасэ загучаў пахавальны звон — па бацьку і па дысертацыі.

Пераклад з грузінскай.

Мікола ВЯРШЫНІН

## ПРЫЧЫНА

**Паэт развёўся з паэтэсай**
**Пасля ідыліі сумеснай...**
**— Хай вас такое абміне!**
**Хоць жонкаю была нядрэннай,**
**Ды падсякала мне карэнне,**
**Бо... крала тэмы у мяне!**

Мікола ТУР

## ПРА СЯБРОЎ-ЗУБРОЎ

Быў малады —
меў загартоўку,
Як зубр, тады
ён піў зуброўку.
Як тая сілы падкасіла —
Дзе там зуброўка! —
Свет не мілы...

## «ПРАШУ НАДРУКАВАЦЬ...»

*Без перабольшання можна сказаць, што добрая трэць пісем, накіраваных у рэдакцыю, адрасавана «Вясёлай трасянцы». І нас вельмі радуе, калі ў новай пошце знаходзіш нешта сапраўды дасціпнае, арыгінальнае. Але часам смех узнікае зусім з іншых прычын. З якіх—мяркуйце самі:*

**С. К-ч (Стоўбцы). «Вам, я пасылаю верш-байку «Салавей, верабей і сініца». Нарадзілася яна ў мяне ў нядзельны дзень. Прычынай паслужыла назіранне за людзьмі. Іх імён я не ўказваю. Падпісваюся я таксама сваім несапраўдным імем».**

**М. С-аў (Бярэзіна). «Прашу надрукаваць мае меньяцюры. Калі гэтыя ўбачаць свет, буду высылаць часцей».**

**К. Ж-к (Нясвіж). «Нам сустрэча сэрца не кранае. Мабыць, я не той, і ты—не тая».**

**А. Д-а (Жыткавічы). «Добры дзень, тав. загадчык літаратуры. Не ведаў, што вы зможаце так паставіцца да маіх вершаў».**

**А. П-ў (Гомельская вобл.). «Добрая мая цешча. Душа-чалавек! Толькі вельмі маленькая. Можа нават трох пудоў не важыць».**

**С. С-л (Мінская вобл.). «Пасылаю Вам свой верш «Паэту». Яго я напісаў сёння на чыг. вакзале г. Стоўбцы і пасылаю яго Вам. Крытыку на яго хай прысылае кожны.. Чакаю крытыку».**

**Я. С-а (Гомельская вобл.). «Добры дзень, літработнікі! Я зноў рашыў даслаць вам свой верш. «Спачыць захацеў, адзінокі, пад звонкі, асенні расвет».**

# ПРА НУЛЬ І НЕ ТОЛЬКІ...

Мал. М. КАРАБКО.















**Па тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.**

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33 24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі—32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.